*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 39 (725) | 12 КАСТРЫЧНІКА 2005 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вынікі падпісной кампаніі на нашую газету на 4-ты квартал 2005 года. У нас адбылося сезоннае павелічэнне колькасці падпісчыкаў па ўсіх абласцях і ў цэлым па краіне, акрамя Менскай і горада Менска. Аднак гэтае павелічэнне зусім не такое, якое чакалася. І зусім нечаканым з'яўляецца падзенне росту падпісчыкаў па гораду Менску у той час, як большасць абласных цэнтраў, акрамя Магілёва, далі рост падпіскі.

Парадаваў Чэрыкаў, дзе падпіска вырасла з 1 да 10 асобнікаў, а таксама такія гарады, як Бяроза, Пінск, Глыбокае, Берастaвіца.

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в | 11 | 11 |
| Бяроза р.в. | 2 | 6 |
| Белаазёрск р.в | 3 | 4 |
| Бярэсце гор. | 15 | 16 |
| Ганцавічы р.в. | - | - |
| Драгічын р.в | 2 | 2 |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | 1 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 5 | 6 |
| Камянец р.в. | 3 | 2 |
| Кобрын гор. | - | 1 |
| Лунінец гор. | 2 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 2 | 1 |
| Пінск гор. | 8 | 13 |
| Пружаны р.в. | 7 | 6 |
| Столін р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **64** | **75** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 2 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 22 | 32 |
| Віцебск РВПС | 1 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 11 | 11 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 9 |
| Гарадок р.в. | 2 | 4 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 1 | - |
| Лёзна р.в. | 1 | - |
| Лепель р. в. | - | 1 |
| Міёры р.в. | 4 | 3 |
| Наваполацк гор. | 27 | 26 |
| Ворша гор. | 4 | 5 |
| Полацк гор. | 12 | 12 |
| Паставы р.в. | 3 | 3 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | - | 2 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 2 | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 4 |
| Шуміліна р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **109** | **124** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 1 |
| Барысаў ггор. | 2 | 2 |
| Вілейка гор. | 5 | 4 |
| Валожын гор. | 5 | 5 |
| Дзяржынск р.в. | 2 | 2 |
| Жодзіна гор. | 7 | 5 |
| Клецк р.в. | - | - |
| Крупкі р.в. | 3 | 3 |
| Капыль р.в. | - | - |
| Любань р.в. | 5 | 5 |
| Менск гор. | 387 | 274 |
| Менск РВПС | 8 | 10 |
| Маладзечна гор. | 14 | 14 |
| Мядзель р.в. | 5 | 9 |
| Пухавічы РВПС | 7 | 7 |
| Нясвіж р.в. | 1 | 3 |
| Смалявічы р.в. | - | 2 |
| Слуцк гор. | 6 | 7 |
| Салігорск гор. | 4 | 4 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 2 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 4 |
| **Усяго:** | **374** | **364** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | - | - |
| Брагін р.в. | 1 | 2 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 23 | 30 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | - | 2 |
| Ельск р.в. | - | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 19 | 14 |
| Жлобін гор. | 3 | 4 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 2 |
| Карма р.в. | 1 | 1 |
| Лельчыца р.в. | - | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 4 | 5 |
| Акцябарскі р.в. | - | - |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыцца гор. | - | 1 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 5 | 6 |
| Хойнікі р.в. | 1 | 2 |
| Чачэрск р.в. | 2 | 3 |
| **Усяго:** | **66** | **80** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставца | 6 | 8 |
| Ваўкавыск гор. | 10 | 10 |
| Воранава р.в. | 7 | 5 |
| Гародня гор. | 30 | 39 |
| Гародня РВПС | 8 | 9 |
| Дзятлва р.в. | 4 | 7 |
| Зэльва р.в. | 2 | 2 |
| Іўе р.в. | 4 | 4 |
| Карэлічы р.дв. | 4 | 4 |
| Масты р.в. | 7 | 8 |
| Наваградак гор. | 7 | 5 |
| Астравец р.в. | 7 | 7 |
| Ашмяны р.в. | 6 | 6 |
| Смаргонь гор. | 11 | 12 |
| Слонім гор. | 11 | 10 |
| Свіслач р.в. | 7 | 7 |
| Шчучын р.в. | 5 | 5 |
| Ліда | 10 | 10 |
| **Усяго:** | **146** | **158** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 5 | 6 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | - | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 3 | 4 |
| Дрыбін р.в. | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 1 | 1 |
| Клімавічы р.в. | 1 | 1 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | 1 | 1 |
| Крычаў р.в. | 1 | 1 |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 2 |
| Магілёў гор. | 18 | 12 |
| Магілёў РВПС | - | - |
| Асіповічы гор. | 7 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 3 |
| Хоцімск р.в. | - | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 10 |
| Чавусы р.в. | 1 | - |
| Шклоў р.в. | 3 | 3 |
| **Усяго** | **48** | **59** |
| **Усяго на краіне** | **807** | **860** |

# У памяць герояў Грунвальда



Намаганнямі сяброў культурна-асветнага клуба "Спадчына" пад кіраўніцтвам Анатоля Белага ў горадзе Старыя Дарогі быў урачыста адкрыты першы ў Беларусі помнік "Героям Грунвальда".

Гэты помнік быў устаноўлены на тэрыторыі прыватнага Музея выяўленчага мастацтва (фонд А. Белага), што заснаваны ў гэтым горадзе. Грунвальдскі манумент ўяўляе сабою шматтонны валун, на якім размешчаны прымацаваныя да яго адлітыя ў бронзе барэльефы палкаводцаў, якія вялі славянскія харугвы ў бой супраць тэўтонскіх рыцараў – Вялікага князя ВКЛ Вітаўта і Караля Польшчы Ягайлы.

Таксама на помніку размешчана дзяржаўная сімволіка Вялікага княства Літоўскага – герб Пагоня, бел-чырвона-белы вайсковы сцяжок і тэкст тагачаснага дзяржаўнага гімна ВКЛ "Багародзіца". На асобнай бронзавай табліцы выгравіраваны назвы харугваў, якія ішлі ў 1410 годзе на Грунвальдскае поле ў бой з этнічна беларускіх зямель.

Сімвалічны лад помніка дапаўняюць металічныя дзіды, на якіх знаходзіцца звон памяці па героях Грунвальда і мячы, уторкнутыя ў камень літарай "V" – сімвалам перамогі.

*(Працяг на ст. 5.)*



# ЗВАРОТ

## Аб радыёстанцыі "Deutsche Welle"

**Канцлеру Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.**
**У Бундастаг Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.**
**У Бундасрат Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.**
**Да палітычных партый Германіі.**
**У Фонд Адэнаўэра.**

Шаноўны спадар Канцлер, шаноўнае Спадарства!

Мы, сябры менскага культурна-асветнага клуба "Спадчына", разам з прысутнымі жыхарамі горада Старыя Дарогі Менскай вобласці Рэспублікі Беларусь і гасцямі з іншых гарадоў і вёсак, якія сабраліся на адкрыццё мемарыяльнага ансамбля "Героям Грунвальда" выказваем шчырую ўдзячнасць нямецкаму ўраду і грамадскім арганізацыям за дапамогу і спрыянне ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і ўсталяванне дэмакратыі ў Беларусі. Мы цэнім дзейнасць Нямецкага адукацыйнага цэнтра IBB (Менск, Беларусь).

З'яўляючыся прадстаўнікамі шырокага зрэзу беларускай грамадскасці, мы вымушаны звярнуцца да Вас у сувязі з пачаткам у кастрычніку г/г вяшчання на Беларусь радыёстанцыі Deutsche Welle на рускай мове. Мы падтрымліваем шырокі голас беларускай грамадскасці: просьбы весці перадачы на роднай мове беларусаў – беларускай і пратэсты супраць вяшчання на расійскай мове, якая вядзе да знікнення беларускай нацыі шляхам татальнай русіфікацыі. Беларусам будзе прыкра, калі да гэтай ганебнай палітыкі імперскай Расіі далучыцца паважаная радыёстанцыя Deutsche Welle. Просім ставіцца да беларусаў, як да украінцаў, і вяшчанне на Беларусь весці на беларускай мове, як на Украіну – на украінскай.

Калі наша просьба-пратэст не будуць пачутыя і ўважаныя, то мы аб'явім байкот:

слуханню радыёстанцыі Deutsche Welle;

тым газетам, якія дадуць рэкламу радыёстанцыі Deutsche Welle;

усім мерапрыемствам, якія праводзіць амбасада Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі;

нямецкім таварам.

Ніякай падтрымкі дзеяннаў ў Беларусі амбасады Федэратыўнай Рэспублікі Гераманіі.

Нашы народы добра памятаюць аб пакце Молатава-Рыбентропа 1939 года. Верым што адносіны паміж Федэратыўнай Рэспублікай Германія і Расіяй не будуць спрыяць татальнай русіфікацыі беларусаў і страце нашай дзяржаўнасці. Прыкра будзе, калі нам прыдзецца змагацца і з заходняй русіфікацыяй. Спадзяёмся на разуменне і спрыянне высокага кіраўніцтва Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.

З павагай,

**Сябры менскага культурна-асветнага клуба "Спадчына" і ўдзельнікі адкрыцця мемарыяльнага ансамбля "Героям Грунвальда".**

*Г. Старыя Дарогі, 1 кастрычніка 2005 года.*



№ 39 (725) 12 КАСТРЫЧНІКА 2005 г. наша слова

# ГАЛОЎНАЯ МЭТА ЎСЯЕ НАШАЕ ПРАЦЫ - ВЫРАТАВАННЕ МОВЫ

***Слова народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча на IУ з'ездзе беларусаў свету 16 ліпеня 2005 года***

Шаноўныя спадарыні і спадары, калегі, паплечнікі!

Мы сабраліся ў неспрыяльны час для працы па кансалідацыі беларусаў свету ў імя вялікай мэты. Як ні сумна бачыць і ўсведамляць – дзяржава не выяўляе жадання дапамагаць нам у гэтай справе. На словах яна нібыта за шматбаковыя сувязі і супрацоўніцтва з краінамі і народамі. Але хто за межамі Беларусі найбольш зацікаўлены ў развіцці гэтых сувязяў і супрацоўніцтва, як не тамтэйшыя беларусы – нашы суродзічы на дыяспры?

Дык чаму ж такая абыякавасць да таго, што ўсе мы з вамі робім?

Зусім дарэчы мне прыходзіць на памяць адзін успамін. Гадоў сорак таму я ўдзельнічаў у працы Кангрэса культуры Балгарыі і быў сведкам, як высокія дзяржаўнікі вялі перамовы з суродзічамі з-за мяжы, падкрэслю – багатымі суродзічамі, еўрапейскімі і амерыканскімі капіталістамі, якія, насуперак усякай ідэалогіі, аказвалі фінансавую падтрымку сацыялістычнай Балгарыі, перш за ўсё – яе культуры. Зайздросна, прызнаюся, было мне бачыць, як дзяржаўнікі Балгарыі шануюць сваіх суродзічаў, як пасвяцку сардэчна і цёпла абыходзяцца з імі, ведаючы, вядома, помнячы, што і яны, гэтыя замежнікі, думаюць пра радзіму, жывуць радзімай. Што яднала і адных і другіх у той святочны дзень Кангрэса? Пачуццё роднасці – адна мова, адна культура, адна гісторыя. О, якая гэта сіла!

Хацеў бы, каб усе мы, думаючы пра наша супрацоўніцтва, вызначылі прыярытэты. На маё перакананне, галоўнае наша заданне сёння – гэта клопат пра нашу родную беларускую мову, пра тое, каб перайначыць да лепшага яе рэальнае становішча ў краіне. Становішча нашай мовы ў нашай жа дзяржаве – у школах, у друку, на тэлебачанні і радыё, і ўсюды, і скрозь – вельмі трывожнае. Гэта – мякка кажучы. Русіфікацыя ідзе і набірае сілу штодня, штогадзіны, штохвіліны. Недаацэньваць гэтую небяспеку – не проста недаравальна, а злачынна, бо гэта вядзе да пагібелі нацыі.

У сувязі з гэтым мяне вельмі засмучае адна акалічнасць. У праграмных выступленнях лідараў палітычных партый і рухаў, знаных дзеячаў апазіцыі моўная праблема нават не згадваецца, ці амаль не згадваецца. Усё зацікаўлена-горача абмяркоўваюць нашы шаноўныя спадары апазіцыянеры. Усё – апрача мовы. Сем-восем пунктаў пералічаць: што патрэбна рабіць сёння, за якія грамадскія ідэі, за якія каштоўнасці трэба змагацца. – толькі не за мову. Можа, у іншых новых дзяржавах, якія хочуць дэмакратызавацца, моўнай праблемы няма, мова займае становішча – не трэба лепш. Але ў нас праблема мовы на першым месцы. Мова, мова і яшчэ раз мова! Інакшай усё траціць сэнс. Мы хочам мець дэмакратычную незалежную беларускую Беларусь ці дэмакратычную незалежную славянскую Аўстрыю на тэрыторыі Беларусі?

Называю Аўстрыю, бо некаторыя дэмакраты спасылаюцца менавіта на гэту краіну як на ўзор для нас. Прабачце, але сорамна такое слухаць. У Аўстрыі нямецкая мова – гэта родная мова аўстрыйцаў, іншай у іх не было і няма, а ў нас, дзякаваць Богу, ёсць свая мова, ды такая, што на зайздрасць іншым.

Вядома, беларусы дыяспары робяць у гэтым плане для сваёй Бацькаўшчыны шмат. Але ж усім зразумела: галоўную працу павінны весці мы, беларусы метраполіі. А мы працуем зусім недастаткова, - я кажу пра ўсю нашу інтэлігенцыю, пра ўсіх нашых палітыкаў. Паўгода назад у артыкуле "За што змагаемся", надрукаваным у "Народнай волі", я падкрэсліў: у Кіеве на Майдан Незалежнасці паўтара мільёна патрыётаў вывеў гімн "Шчэ нэ вмэрла Украіна". Так глыбока зайшоў гэты гімн у сэрцы украінцаў. А ў нас? Чаму кожны дзень і рана-раніцай і позна ўвечары па радыё станцыі "Свабода" не гучыць гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі"? Уяўляеце, колькі за гэтых пятнаццаць гадоў беларусаў, асабліва маладых, акрэплі б у сваіх патрыятычных настроях дзякуючы магутнай песні! Але яна не гучыць.

Зусім нядаўна ў галоўнай вуліцы Менска ўлады адабралі імя Скарыны. І што? А нічога. Пабурчэлі крыху на кухні – і ўсё. Калі б у Венгрыі ў Будапешце вуліцу Шандара Пецёфі пазбавілі гэтага імя – адбылася б рэвалюцыя. Таксама і ў Балгарыі – калі б гэтак па-дзікунску абышліся ўлады з вуліцамі імя Паісія ці імя Боцева. А мы – праглынулі. Вось такі наш нацыянальны гонар. Вось так мы разумеем, што для нашага гістарычнага лёсу значыць імя вялікага Скарыны. І што значыць для нашага лёсу Роднае Слова, сінонімам да якога ёсць імя геніяльнага беларускага асветніка і першадрукара.

Запомнім, шаноўныя спадарыні і спадары: не ўсе паралелі з краінамі, дзе адбылося адраджэнне нацыянальнай мовы, для нас падыходзяць. У тых краінах не было побач такой, як у нас, небяспекі – не было побач блізкароднаснай і моцна ў нас укаранёнай за стагоддзі мовы. На вялікі жаль, наша магутная суседка не думае адмовіцца ад паглынання не толькі беларускай мовы, але і самой Беларусі. Пэўныя сілы ў нашай дзяржаве ідуць гэтай імперскай прагнасці насустрач. Гэта надзвычай ускладняе наша заданне, нашу працу. Але – выбару ў нас няма. Будзем працаваць у тых умовах, якія ёсць. З верай у перамогу.

Дзякую за ўвагу.

# З ЖЫЦЦЯ ПРЫКАЗАК

У 1960 годзе Ф. Янкоўскі апублікаваў невялікую кнігу "Крылатыя словы і афарызмы". Сюды ўключаны 220 разнаструктурных адзінак, узятых з беларускіх літаратурных крыніц. Ёсць тут адрыўкі, якія складаюцца з двух сказаў: ***"Будзь смелы, як вецер, як воля сама! Знай, смелых не чэпе ні крыўда, ні цьма!"*** "(Я. Купала), пераважаюць выказванні ў форме складаных ці простых сказаў. Многія з пададзеных літаратурных цытат маюць структуру словазлучэння: ***"Пан сахі і касы"*** (Я. Купала). У якасці крылатых адзначаны і асобныя словы: ***Гарлахвацкі, Туляга***. Ужыванне ў літаратурнай мове ўключаных у зборнік выразаў і слоў толькі ў вельмі рэдкіх выпадках пацвярджаецца адзінкавай цытатай-ілюстрацыяй.

Вядомы тагачасны даследчык фразеалагізмаў і прыказак прафесар Л.І. Райзензон, увогуле станоўча ацэньваючы працу Ф. Янкоўскага як першую спробу стварыць беларускі зборнік крылатых выразаў, разам з тым адзначыў як яго істотны недахоп адсутнасць у кнізе "добрага ілюстрацыйнага матэрыялу, у якім выкарыстоўваецца дадзены зварот". Гэта хутчэй патэнцыяльныя, чым сапраўдныя крылатыя выразы. Ды і сам складальнік зборніка пісаў, што адбор пэўных выказванняў з літаратурных крыніц "непазбежна носіць у нейкай меры суб'ектыўны характар".

На якой падставе той ці іншы выраз можна прызнаваць крылатым? Думаецца, толькі пры ўмове, калі ён набыў "крылатасць" – выйшаў за межы таго твора, дзе пачынаў сваё жыццё, стаў вядомым для значнай часткі моўнікаў і ўжываецца ў маўленні без спасылкі на яго аўтара. Выраз можна лічыць крылатым, калі ёсць пацвярджэнні яго ўжывання ў літаратуры. Няма пацвярджэння – няма падстаў гаварыць пра "крылатасць".

У артыкуле "Няма таго, што раньш было", змешчаным у "Нашым слове" (1.06.2005), мне ўжо даводзілася гаварыць, што ў нашай мове ёсць параўнальна нязначная колькасць фразеалагізмаў і прыказак, якія этымалагічна з'яўляюцца крылатымі выразамі з твораў асобных беларускіх пісьменнікаў. Прыводзіліся праілюстраваныя адпаведным чынам прыказкі (былыя крылатыя выразы) з твораў Я. Купалы. Я. Коласа, М. Багдановіча, К. Крапівы. пададзім яшчэ дзве. такія прыказкі.

**"Зерне падае не на камень."** Так называецца аповесць І. Пташнікава, апублікаваная ў 1959 г. Сама назва аповесці ўтрымлівае ў сабе алегарычнасць, што садзейнічала ператварэнню яе ў прыказку. Сёння яна актыўна ўжываецца ў маўленні, абазначаючы "павінны быць належныя вынікі пасля чыёй-небудзь парады, размовы, настаўлення, агітацыі і інш."

Праўда, яе дзеяслоўны кампанент выкарыстоўваецца, як у першапачатковым выглядзе, так і ў форме закончанага трывання ***(упала)***, а таксама з лексічнай варыянтнасцю ***(кінута)***. Вось прыклады рэалізацыі гэтага былога крылатага выразу ў сучасным літаратурным маўленні: 1) *Сахута зірнуў на гадзіннік. Але на гэты раз ён не спяшаўся "закругліць" абмеркаванне. А можа, будзе нейкая карысць з гэтай размовы, бо зерне падае не на камень* (Л. Левановіч); 2) *У страсным маналогу "кулака" Скуратовіча, акрамя недаверу да ўсіх на свеце, нямала горкай праўды пра жорсткасць жыцця, пра блізкі апакаліпсіс, калі дзеці, "трэцяе пакаленне", будуць бадзяцца беспрытульнымі па ваенных дарогах. Міхалка чуе гэтую яго праўду: зерне падае не на камень* (М. Тычына); 3) *Адамовіч сказаў, што такая дакументальная кніга павінна быць, і такую кнігу можа зрабіць толькі жанчына. "Баба бабе раскажа тое, што ніколі не раскажа мужыку..." Святлана Алексіевіч тады працавала ў "Нёмане". Зерне ўпала не на камень* (А. Кудравец); 4) *Зерне было кінута не на камень – яно ўзышло, дало плады. Адным з тых, хто гэтую ідэю (мець сваю самастойную дзяржаву) падтрымаў і панёс далей, быў удзельнік паўстання 1863 года Ф. Багушэвіч* (Б. Сачанка).

**"Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай."** Гэта два радкі з сатырычнага верша К. Крапівы "Едзе крытык малады" (1932), дзе гаворыцца, як верхаводзілі ў літаратуры пралетарскія пісьменнікі ды крытыкі-вульгарызатары, і як нарэшце *"не сярпец пакутнік: - Крытык! Роднен ькі! Даруй мне з маёю музай! Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай"*. Цяпер гэта прыказка ўжываецца з незадавальненнем у дачыненні да тых кіраўнікоў, якія занадта любяць указваць, накіроўваць чыюнебудзь дзейнасць, распараджацца кім-небудзь, напрыклад: *"Партыйная дысцыпліна, нібы жалезная аброць, прымушала трымацца баразны, на якой вялі вышэйшыя лідэры, што сядзелі ў Крамлі і трымалі лейцы. Каб жа толькі трымалі! Дык жа бязлітасна тузалі! І не раз узгадваў Андрэй крылатыя, мудрыя словы: "Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай!"* (Л. Левановіч). адчуваецца гэта прыказка і ў наступным адрыўку з п'есы А. Петрашкевіча "Дагарала свечачка": *"Нам і настаўнік гаварыў, што ў нас, маўляў, не цар кіруе, а палітбюро. А бабы ў адзін голас: хіба ж мы супраць таго бюро?! Па нас няхай бы сабе там хоць сто быў, абы па-людску кіраваў ды не вельмі тузаў. І каб дзетак нашых не забівалі ў далёкіх чужых землях за той доўг, якога мы ні ў каго не пазычалі..."*

Прыказкамі становяцца і былыя крылатыя выразы з іншых моў. Так, **"Бадалася цялё з дубам"** – паўкалька з рускай мовы. Паходзіць ад назвы вялікай кнігі нарысаў А. Салжаніцына **"Бодался теленок с дубом"**, напісанай у 1970 –я гады і апублікаванай спачатку за мяжой, а праз 20 гадоў у Маскве. Гэтай прыказкай характарызуюць далёка не раўнасільную, але не бескарысную і не безвыніковую барацьбу адважных адзіночак з савецкім таталітарызмам. Напрыклад, артыкул А. Вярцінскага называецца **"Як цялё бадалася з дубам"**, дзе расказваецца на аснове архіўных матэрыялаў ЦК КПБ, пра "Ліст 53-х" у абарону Васіля Быкава і прыводзяцца іншыя матэрыялы пра "культуру і ўладу, творчую інтэлігенцыю і палітыку".

Ёсць шэраг прыказак, што паходзяць з крылатых выразаў, аўтарамі якіх былі не пісьменнікі, а філосафы, грамадскія дзеячы і г.д., напрыклад, **"Пераможцаў не судзяць"** – паўкалька з рускай мовы (***Победителей не судят***). Прыпісваецца імператрыцы Кацярыне II, якая нібыта гэтак сказала пра Суворава, калі той самавольна павёў войскі на штурм Туртукая і авалодаў горадам. Прыказка гаворыцца ў абарону таго, хто хоць і заслугоўвае крытыкі ці іншага пакарання, але яму можна гэта прабачыць з-за ягоных ранейшых значных поспехаў, перамог у чым-небудзь: ***"Акапян чакаць не мог. Зямля прагрэлася, падсохла. Самы час араць. Загадаў забраць усе плугі для калгасаў свайго раёна. Так і зрабілі: пакуль у вобласці будуць чухацца, яны адсеюцца. А пераможцаў не судзяць"*** (Л. Левановіч).

Шырока выкарыстоўваецца прыказка **"Грошы не пахнуць"**. Яна гаворыцца з неадабрэннем і абазначае "для каго-небудзь не мае значэння, якім шляхам атрыманы, здабыты грошы": *"Гэтыя за зарплату падстаўляць лоб пад кулю не надта адважацца, дый няма ніякіх гарантый, што некага з іх рэкет не купіць. Грошы, як ты кажаш, не пахнуць"* (І.Кput).

Гэта прыказка – калька з лацінскай мовы: ***Pecunia non olet***. Паходзіць са слоў рымскага імператара Веспасіяна (I ст. н. э.), які ўвёў падатак на грамадскія прыбіральні, а калі сын папракнуў бацьку за гэта, той паднёс да яго носа першыя грошы, сабраныя як падатак, і прапанаваў яму панюхаць, пытаючы, ці пахнуць яны.

Цікавую гісторыю мае прыказка "***У нагах праўды няма***". Яе ўжываюць як запрашэнне сесці: *"- Сядайце з намі, у нагах праўды няма, - весела гаворыць Юліус"* (С. Законнікаў). яна паводле паходжання паўкалька з рускай мовы: ***В ногах правды нет***. У старажытныя часы выраз абазначаў *"біццём па нагах наўрад ці даб'ешся праўды"* і ўзнік, як мяркуе С. Максімаў, у сувязі з суровай судовай практыкай: падазронага ў чымсьці падвешвалі і білі па нагах тоўстымі прутамі, дапытваючыся праўды. Калі такія прыёмы следства зніклі, а значыць, і выраз *"У нагах праўды няма"* страціў апору на адпаведных рэаліі, то яго форма запоўнілася новым зместа. Цяпер (і даўно ўжо) прыказка ўжываецца толькі як запрашэнне сесці.

***Іван ЛЕПЕШАЎ.***




# Дзейнасць Слонімскай суполкі ТБМ

Праца суполкі вялася ў наступных кірунках: творчасць (выхаванне творчага нацыяналізму), асвета (зварот да мясцовай супольнасці праз розныя газеты "Слонімскі веснік" і "Газету Слонімскую" з праблемамі беларускай мовы), рэлігія, грамадская дзейнасць, сям'я, музейная справа.

"Беларускае мястэчка".

Слонімская суполка падтрымлівае сувязь са святарамі з Баранавіч, Менска, Берасця. Івацэвічаў, якія ладзяць набажэнства па-беларуску (грэка-каталікі), а таксама робіць захады па наладжванні стасункаў з мясцовымі касцёламі, якія службу вядуць не



*Круглы стол па праблемах беларускай мовы ў Слоніме*

Творчасць – гэта гурток настаўнікаў і вучняў "Ветразь надзеі", які выдаў 5 нумароў аднайменнай газеты, даў нараджэнне паэту са Слонімшчыны Янку Карповічу, надрукаваў вершы дзяцей Слонімшчыны ў "Раніцы" (Бякета Слава), "Бярозцы" (Гірыч Аксана), "Настаўніцкай газеце", "Нашым слове", у зборніку "Паэтычная Слонімшчына" (2000 г.). Сябар суполкі ТБМ Янка Карповіч стварыў музей гісторыі горада Слоніма ў СШ № 10.

Т. У. Трафімчык выступіла з 50-ццю артыкуламі ў раённым друку па праблеме стану роднай мовы ў грамадстве, арганізавала і правяла "Круглы стол" (2003 г.) па праблемах роднай мовы.

За "круглым сталом" сабраліся госці ТБМ з Менска, Гародні, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі Слонімшчыны і работнікі райвыканкаму. Т. У. Трафімчык правяла конкурс праграм выхавання нацыянальна свядомай асобы, запрасіла на раённую секцыю настаўнікаў роднай мовы

толькі па-польску, а і па-беларуску.

Грамадская дзейнасць. У 2004 годзе ў час выбараў дэпутатаў у Нацыянальны сход РБ суполка змагла накіраваць 23 назіральнікі на выбарчыя ўчасткі.

Пенсіянерка Я. Дз. Лазар арганізавал дзейнасць клуба захавання беларускіх сямейных традыцый "Радасць", які аб'яднаў яе ўнукаў, іх сяброў, а таксама сваякоў дзяцей і дарослых. Клуб сямейных традыцый адраджае шэраг народных беларускіх гульняў, сямейных абрадаў, перадаў успаміны дарослых аб дзіцячых гадах. Пасяджэнні клуб "Радасць" праводзіў у дзіцячай бібліятэцы г. Слоніма.

А. М. Пыркова праводзіла работу па адраджэнні нац. свядомасці праз музейную справу: музей "Беларуская майстэрня", гісторыі Слонімшчыны, музей І. Стаброўскага і інш.

У выніку дзейнасці суполкі грамадскую актыўнасць набылі сябры ТБМ А.І. Пасько, М.М.



*Дарослыя і дзеці з цікавасцю назіраюць за выступленнем дзяцей з клуба захавання беларускіх сямейных традыцый "Радасць", якія паказваюць сямейныя абрады і абразкі народнага жыцця*

выкладчыкаў Берасцейскага універсітэта, наладзіла прапаганду творчасці А. І. Пасько, Міколы Канановіча – паэтаў са Слонімшчыны, якія пішуць па-беларуску, правяла шэраг вечарын – сустрэч у прыватным музеі М. І. Рылка Скок. М. Г. Пратасавіцкая, Л. В. Шалястовіч, В.М. Асокіна і інш. наша суполка для гэтых людзей стала школай грамадскай актыўнасці ў абарону роднай мовы.

*Трафімчык Т. У.,*
*г. Слонім.*

# Жыве ў Зэльве Юрась...

**Хто яго не ведае ў Зэльве Юрася Качука? Пытанне больш рытарычнае. Адны ставяцца да яго з павагаю. Іншыя – з непрыязнасцю. Першыя ведаюць яго нязломным патрыятычныя перакананні. Другія – прыглядаюцца з асцярогай, добра "напампаваныя" таннымі прапагандысцкімі радыётэлевізійнымі штампамі пра "нядобрых людзей з апазіцыі".**



А ён спакойна робіць сваю справу. Вось цяпер заклапочаны выданнем зборніка вершаў паэта Генадзя Каўша з мястэчка Дзярэчын. Няхай сабе будзе выдрукавана кніжачка мізэрным накладам. Але ўсё ж ...

Сам Юрась Качук па адукацыі інжынер па эксплуатацыі аўтатранспарту. Закончыў знакаміты Менскі палітэхнічны інстытут у 1985 годзе. Працаваў па спецыяльнасці. Дарэчы, быў самым маладым кіраўніком Зэльвенскай аўтакалоны – ледзь споўнілася 23 гады.

Але быў Беларусам не па назве, а па крыві. Таму рабіў усё, каб родная зямля мела шчасце і волю, як казаў паэт. Пра паэта мы ўзгадалі нездарма, бо тэхнічны досвед Ю. Качука цудоўным чынам спалучаецца з духоўнай патрэбай выказацца. Трэба дадаць сюды і арганізатарскія здольнасці...

Марыў мець сваю газету. Калі давялося развітацца з работай у аўтакалоне і пачаць працу ў пажарнай частцы, сваё жаданне здзейсніў. Зрабіць першы крок дапамагла вучоба ў польскім гарадку Сейны, дзе навучаўся грамадскаму лідарству. Многія чыталі бюлетэнь "Зяльвяначка". Усяго было выпушчана 10 нумароў. Першы нумар пабачыў свет у 2000 годзе. Не тое, каб газета, але і не бульварны лісток.

Намаганнямі Юрыя, было выдадзена два нумары часопіса "БЭЗ" ("Беларукая Энцыклапедыя Зэльвеншчыны"). Цяпер імкнецца здзейсніць уласную краязнаўчавыдавецкую ініцыятыву: надрукаваць зборнікі тутэйшых аўтараў. З гэтай серыі ўжо надрукавана паэтычная кніга Дануты Дабрынінай "Думак світанне". На чарзе іншыя аўтары...

Яшчэ адно імя пастаянна натхняе Юрыя на дзеянні – Ларыса Геніюш. З 1994 года Юрась ладзіць святы ў гонар дня нараджэння гэтай шырока прызнанай паэткі. У Зэльву з'язджаюцца прыхільнікі яе творчасці, неабыякавыя да роднага слова людзі. Праводзіцца набажэнства, гучаць вершы перад помнікам пісьменніцы на мясцовых могілках.

Што да працы, то яе Юрась не мае. Патрыёты з глыбокімі беларускімі каранямі цяпер не ў пашане ў тых, хто пры ўладзе. Праўдамі-няпраўдамі, такіх выштурхоўваюць на бачыну жыцця. Але што там, за тым небасхілам? Сказаў жа Выратавальнік: і першыя стануць апошнімі, і апошнія стануць першымі. Кругазварот жыцця ніколі не спыняецца.

*Антон Лабовіч,*
*Гародна.*
*На здымку: Юрась Качук.*
*Фота аўтара.*

# ЛЁС БЕЛАРУСА




Каторы раз я, як і наша газета, звяртаемся да тэмы беларусізацыі ў розных сферах нашага жыцця.

Звярнуў увагу на рускамоўную нагдядную агітацыю ў мясцовых лясніцтвах і звярнуўся з прапановаю перааформіць шыльды, пано і аркі ў лясніцтвах Целяханскага лясгасу. Дырэктар лясгасу сп. Каўчун аказаўся чалавекам сумленным і ўважлівым. На мой ліст-зварот даў адказ, у якім паабяцаў зрабіць паварот у бок беларускамоўнага афармлення агітацыі ў лясгасе. І вось з'явіліся практычныя зрухі ў гэтым кірунку. На свята работнікаў аховы прыроды я пабыў у М. Плотніцкім лясніцтве. Маю ўвагу ляснічы гэтага лясніцтва Валах звярнуў на два пано: "Лес Беларусі - Лёс Беларусі"" і "Зберагчы лес для сваіх нашчадкаў".

Гаспадар не прамінуў засведчыць, што будзе пераафармлена ўязная арка – пано на тэрыторыю лясніцтва. Пахвальна. Я вырашыў зрабіць фотаздымак ляснічага на фоне канторы лясніцтва і стэнда. Валах – старэйшы адмовіўся і прыйшлося фатаграфаваць яго памочніка і адначасова сына. Як я зразумеў гэта нават лепш. Бо Юра Валах-малады, шматабяцальны спецыяліст лясной гаспадаркі з вышэйшай адукацыяй. Яму берагчы лес, як найбольшае багацце нашай роднай Бацькаўшчыны, для сваіх нашчадкаў.

Валах-малодшы прымае эстафету ад Валаха-старэйшага, каб перадаць яе новаму пакаленню Карыстаючыся зручным момантам зазначу, што Юра – чалавек сумлены, з прагрэсіўнымі поглядамі на жыццё, добры спецыяліст і адказны грамадзянін. Мне здаецца, што за такімі будучыня Беларусі. Я ганаруся, што як настаўнік роднай мовы і літаратуры, прыклаў намаганні да яго выхавання. Лёс Беларусі і беларусаў у руках пакалення Юры Валаха.

*Уладзімір Гук ,*
*ст-ня. "ТБМ імя Ф. Скарыны*
*Пінскага раёна*

# ПАДЗЯЛЮСЯ САКРЭТАМ

Свядомыя беларусы могуць заахвоціць да беларускай мовы тых, хто не ведае дарогі.

Я ўжо каторы год практыкую гэты спосаб і сёння, на маю радасць, убачыла яго вынікі:

Усім, хто пытаецца ў мяне куды прайсці, я адказваю толькі па- беларуску, і калі хто не разумее мяне. Я не пераходжу на рускую мову. Часам растлумачу па ангельску альбо па-польску. Чалавек крыўдзіцца, а хто сварыцца, а хто пачынае думаць.

Сёння я сустрэла чалавека, які пытаўся ў мяне дарогу ў БТІ (Бюро тэхнічнай інвентарызацыі,) а гэта бывае вельмі часта, я яго запомніла, бо год таму ён надта сварыўся, а сёння пазнаў і хоць з памылкамі, але гаварыў па-беларуску.

Я з задавальненем адвяла яго у Бюро тэхнічнай інвентарызацыі.

*Алена Таболіч (мінчанка).*

# СТАРАДУБСКАЯ ВАЙНА

Зусім нядаўна ў сродках масавай інфармацыі гучалі сказы аб тым, што больш сваяцкага і брацкага народа ў беларусаў, чым расейскі няма і ніколі не было. А калі згадаць ранейшую савецкую і царскую прапаганду, асабліва кніжачку "Народ издревле нам родной", то шмат хто ў гэта мог і паверыць. Праўда, пасля нядаўняй "газавай" вайны фанфары крыху сціхлі, тым больш што падчас "памаранчавай" рэвалюцыі на Украіне імперскае аблічча сённяшняй Расіі зноў яскрава праявілася.

Таму сёння ёсць падстава згадаць пра шматлікія беларуска-расійскія войны ХУІ – ХУІІ ст., якія прынеслі нашаму народу незлічоныя страты. Гаворка пойдзе пра адну з гэтых войнаў, якая ў расійскіх сучасных гістарычных крыніцах атрымала назву Старадубская вайна.

Гэтая вайна пачалася за вяртанне ў склад ВКЛ былога Старадубскага княства. Яно было ўтворана ў 1454 годзе як удзел князя Івана Мажайскага, які ўцёк у ВКЛ ад Васіля ІІ – маскоўскага ўладара.

У 1499 годзе ягоны сын Сямён, які афіцыйна называўся як князь Старадубскі атрымаў ад вялікага князя Аляксандра пацвярджэнне на сваю вотчыну ў складзе гарадоў Старадуб, Гомель, Чарнігаў, Бранск, Карачаеў і Хоцімль.

Аднак восенню 1500 г. князь Сямён разам з уладальнікам Ноўгарад-Северскага княства Шамяцічам перайшлі на бок Івана ІІІ. За гэта іх княствы мелі ў складзе маскоўскай дзяржавы пэўную аўтаномію, бо яны разам з Разанню ў першай чвэрці ХУІ ст. засланялі Маскву ад татарскіх набегаў. У 1518 годзе Старадубскае княства перайшло ў валоданне Васіля ІІІ і спыніла сваё існаванне.

Прычынай вайны стала жаданне ВКЛ узяць рэванш за шматлікія паразы ў папярэдніх войнах канца ХУ – пач. ХУІ ст., калі былі страчаны вялікія тэрыторыі, у тым ліку гарады Смаленск. Чарнігаў, Старадуб і Гомель.

У 1533 годзе памёр маскоўскі князь Васіль ІІІ, а ў канцы 1533 супроць Масковіі выступіла Крымскае ханства. Віленскі вальны сойм ухваліў ваенны падатак на 3 гады.

У пачатку красавіка 1533 года было сабрана паспалітае рушэнне колькасцю каля 24 тысяч чалавек пад Менскам. У жніўні войска ВКЛ на чале з гетманам Юрыем Радзівілам у колькасці 20 тысяч чалавек прыйшло пад Магілёў, дзе падзялілася на два корпусы. Адзін корпус рушыў на Смаленск, а другі ў Северскую зямлю пад Старадуб.

*"Тых часоў адпусцілі есма ад нас гетмана нашага вялікага пана Юрыя Мікалаеіча Радзівіла і з іншымі гетманамі і з войскамі нашымі вялікімі, і з гарматамі ў зямлю непрыяцеля нашага Маскоўскага на Северу, і казалі есма ім, Бога ўзяўшы на помач, замкаў нашых айчызных северскіх здабываці. І калі б Бог мілы дапамог, найперш замка Гом'я дастаці або агнём яго спаліці..."*

Спачатку пачыналася цяжка. Корпус на чале з Вішнявецкім не здолеў узяць Смаленск, а аддзел, якім кіраваў Неміровіч у Северскай зямлі захапіў толькі замак Радагошч. Войскі ВКЛ мусілі вярнуцца, а зімою 1535 года войскі маскоўцаў напалі на Беларусь і дайшлі да Браслава і Наваградка, палячы і рабуючы вёскі і мястэчкі.

Каб працягнуць вайну, ВКЛ наняло ў Польшчы 5000 жаўнераў, а таксама атрымала дапамогу каронная войска ў выглядзе 1000 вершнікаў. У канцы траўня войска сабралася пад Рэчыцай. На гэты раз ваенныя дзеянні былі больш паспяховымі. У ліпені нашыя войскі, разам з польскімі аддзеламі рушылі ў Северскую зямлю. 16 ліпеня быў вызвалены Гомель, жыхары якога самі адчынілі браму моцна ўмацаванага Гомельскага замка.



*Юры Радзівіл (1480-1541) сын і брат канцлераў ВКЛ Мікалая Радзівілавіча і Мікалая Мікалаевіча Радзівілаў. Ён быў кіеўскім ваяводам, Гарадзенскім старастам, троцкім кашталянам і нарэшце гетманам найвышэйшым (1531-1541). Гэта прафесійны ваяр, які шмат год змагаўся з маскоўцамі. Пад час Аршанскай бітвы 8 верасня ён кіраваў лёгкай кавалерыяй.*

*Ягоны сын Мікалай Руды таксама стаў гетманам і вызначыўся пад час Лівонскай вайны, а малодшая дачка, прыгажуня Барбара стала жонкай караля Жыгімонта Аўгуста. Менавіта Юры стаў заснавальнікам літоўскай (біржайскай) лініі роду Радзівілаў.*

*"... паведаючы аб вялікай ласцы мілага Бога і аб шчаслівай фартуне, якую Бог-стваральнік за справаю вашай міласці гаспадару яго міласці тых часоў напачатку пашчасціць рачыў, іж ваша мілась замак непрыяцельскі моцны і абаронаю здольны Гомей да рук гаспадарскіх узялі: яка ж князь Дзмітры Абаленскі, бачачы моцнае аблажэнне вашае міласці сам з баяры тамашнімі з онага замка выйшаў і вашай мілацсі яго падаў; і некаторыя баяры і людзі прысягу ўчынілі, хоцячы гаспадару нашаму яго мілацсі верна служыці. А тое се стала без вялікага накладу гаспадарскага і вашай мілацсі."*

Пазней былі ўзятыя гарады Почап і Радагошч, а 29 жніўня пасля месячнай аблогі і Старадуб. Старадубскага ваяводу Фёдара Аўчыну ўзялі ў палон.

Весткі пра вяртанне Гомеля, які з 1501 года належаў маскоўцам выклікалі вялікую радасць у ВКЛ.

Жыгімонт І загадаў намеснікам з бліжэйшых да Гомеля гарадоў тэрмінова выслаць прафесійных будаўнікоў, для ўзвядзення новых гарадскіх умацаванняў. Гэта было зроблена вельмі тэрмінова і своечасова, бо неўзабаве войскі ВКЛ пакінулі ўзятыя раней гарады, акрамя Гомеля і вярнуліся дамоў.

Аднак на тым Старадубская вайна не скончылася. Наўгародскія і маскоўскія войскі, прысланыя маскоўскім уладаром, уварваліся ў Полацкую зямлю і збудавалі там, на мяжы з Масковіяй два замкі Себеж і Завалач, а на сваёй тэрыторыі, побач з мяжою – замак Веліж.

Зімою 1536 года войска ВКЛ хацела захапіць Себеж, аднак гэта не атрымалася. Летам 1536 г. маскоўцы былі разбіты пад Крычавам і вайна практычна спынілася. 27 сакавіка 1537 г. у Маскве падпісалі перамір'е на 5 гадоў, на якому Себеж і Завалач перадавалі Масковіі, а Гомель з ваколіцамі – ВКЛ. У 1542 годзе перамір'е зноў падоўжылі на 5 год на тых жа ўмовах.

Адразу пасля вяртання Гомеля ў 1535 г. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт заснаваў Гомельскае староства, як асобнае дзяржаўнае ўтварэнне ў складзе гаспадарскіх Падняпроўскіх воласцяў. У 1560 годзе г. Гомель атрымаў свой герб, а з 1565 года Гомельскае староства знаходзіліся ў складзе Рэчыцкага павету Менскага ваяводства. У гэты час у склад староства акрамя Гомеля ўваходзілі 32 вёскі пад кіраўніцтвам дзяржаўцы.

Асобнымі вёскамі валодалі непасрэдна мясцовыя баяры і шляхта. Вёска Пляса належала гомельскай Троіцкай царкве, а в. Слепка была падаравана Віленскаму касцёлу св. Станіслава і ўвайшла ў склад яго маёнтка Стрэшын.

У 1640 годзе ў Гомельскае староства ўваходзіла 40 сёл з 202 дамамі. Яно было злучана дарогай з Рагачовам. У такім выглядзе староства існавала да першага падзелу Рэчы Паспалітай.

У беларускай гістарычнай энцыклапедыі Старадубская вайна называецца як пятая вайна з Масковіяй, а ў падручніках звестак пра гэтыя падзеі практычна няма. Толькі Мікола Ермаловіч крыху піша пра гэтыя падзеі ў сваёй кнізе "Беларуская дзяржава – ВКЛ". Нядаўна арыгінальныя матэрыялы пра вышэйзгаданую вайну надрукавалі асобнай кнігай рускія гісторыкі.

Такім чынам у гэтым годзе спаўняецца 470 год з часоў першага вяртання Гомеля ў склад Беларусі, апошняе вяртанне адбылося ў 1926 годзе.

*Алег Трусаў, кандыдат гіст. навук.*



*Гомельскі замак. Малюнак з карты 16 ст.*

## "БЕРАЖНІЦА"

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыла свет кніга вершаў "Бяражніца". Гэта дэбют 20-гадовага студэнта БДЭУ Рагнеда Малахоўскага, які нарадзіўся ў пасёлку Сяймчан Магаданскай вобласці. Калі чытаеш вершы Рагнеда адчуваецца, што паэт знаходзіцца пад моцным удзеяннем класікаў беларускай літаратуры, менавіта таму яго паэзія размерана-стрыманая, без рэзкіх наватарскіх хістанняў, без знаку самаўлюбёнасці.

Душэўная споведзь аўтара не можа не кранаць шчырасцю, лірычнасцю і духам роднага краю, захапляе яскравасцю трапных вобразаў, выверанасцю радка, гарманічнай завершанасцю верша.

Мне асабіста спадабаўся верш "Сцяжыны кахання". Мова вершаў не пакідае абыякавым ні маладога, ні сталага прыхільніка паэтычнага слова рэдактарам літаратурна-паэтычнага слова выдання з'яўляецца вядомы паэт Віктар Шніп...

Трэба адзначыць, што Рагнед ужо добра вядомы аматарам паэзіі па калектыўных зборніках, газетах, а таксама часопісах.

Лічу, што акрамя аматараў нетрадыцыйных наватарскіх хістанняў і авангарду паэтычная творчасць дэбютанта спадабаецца ўсім чытачам з добрым густам. Кніга "Беражніца" – гэта не адмова ад наватарства, а крок насустрач усім, хто жыве ў стылі "маэстра".

*Аляксей Шалахоўскі.*

## У ГАЛЯРЭІ ТВОРАЎ Л.ШЧАМЯЛЁВА Ў МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА АКВАРЭЛІ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ

Выстава беларускіх мастакоў "Акварэль у чатырох асобах" адкрылася 4 кастрычніка ў гарадской мастацкай галярэі твораў Леаніда Шчамялёва ў Менску.

Як паведаміла БелаПАН дырэктар галерэі Таццяна Бембель, ідэя выставы звязана з удзелам чатырох беларускіх мастакоў — Дзмітрыя Сурыновіча, Уладзіміра Гераўкера, Сяргея Пісарэнкі і Лідзіі Лесняковай, якія працуюць у тэхніцы акварэлі, у Міжнароднай біенале акварэлі ў Намюры (Бельгія). "На гэтым форуме, які за амаль 20 гадоў існавання стаў вельмі папулярным сярод прафесіяналаў і аматараў акварэлі ва ўсім свеце, упершыню выступілі акварэлісты з Беларусі, — сказала Т. Бембель. — І, мяркуючы па водгуках спецыялістаў і прэсы, яны былі заўважаны сярод 150 мастакоў, адабраных з 500 мастакоў, якія падалі работы на разгляд прыёмнай камісіі".

*Юлія Цяльцеўская, БелаПАН.*





## МІНЧАНЕ ЖЫВУЦЬ У ГОРАДЗЕ З ПОЛЬСКАЙ НАЗВАЙ, СЦВЯРДЖАЕ ПРАФЕСАР А. ГРЫЦКЕВІЧ

Мінчане жывуць у горадзе з польскай назвай, якая замацавалася за сталіцай Беларусі ў савецкія гады. Пра гэта заявіў доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Анатоль Грыцкевіч 4 кастрычніка на сустрэчы з моладзю. Мерапрыемства было прысвечана гістарычнай тапаграфіі і тапаніміцы Мінска і прайшло ў сталічнай штабкватэры ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ).

Паводле слоў гісторыка, у XVII стагоддзі, з увядзеннем польскай мовы як афіцыйнай у Вялікім Княстве Літоўскім, горад Менск стаў называцца Мінскам, а ў XVIII стагоддзі за ім замацавалася назва Мінск-Літоўскі. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай польскамоўная назва горада, зазначыў А.Грыцкевіч, "была літаральна перанесена з польскай у беларускую мову і канчаткова за-цвердзілася ў савецкія часы".

Адказваючы на пытанні ўдзельнікаў сустрэчы, мастак Мікола Купава зазначыў, што старажытны Менск размяшчаўся не на ўзгорку, а ў даліне Нямігі і Свіслачы, якія не толькі абаранялі жыхароў ад ворагаў, але і служылі зручным водным шляхам.

Як зазначыў старшыня ТБМ Алег Трусаў, гэтае мерапрыемства паклала пачатак цыклу сустрэч з вядомымі дзеячамі нацыянальнай культуры. Акрамя таго, сказаў А. Трусаў, да чэрвеня 2006 года перад моладзю выступяць пісьменніца Вольга Іпатава, археолаг Міхась Чарняўскі, літаратар Уладзімір Арлоў, мастак Аляксей Марачкін, тэатральны рэжысёр Валеры Мазынскі, а таксама музыкант і мастацтвазнаўца Віктар Скарабагатаў.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## У В А Г А !

**Сустрэчы ў сядзібе ТБМ:**

**18 кастрычніка ў 18.00.** У. Арлоў. Гістарычныя ваколіцы. Вандроўкі ў прасторы і часе.

**18 кастрычніка ў 19.30.** С. Кручкоў. Як стварыць суполку ТБМ.

**19 кастрычніка ў 18.00.** В. Іпатава. Менск у творах беларускіх пісьменнікаў. Гісторыя ў вобразах.

**20 кастрычніка ў 18.00.** Л. Дзіцэвіч. Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне.

## У МЕНСКУ ВЫДАДЗЕНЫ ДАВЕДНІК "АРХІЎНЫЯ ДАКУМЕНТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ – СКАРБНІЦА САЦЫЯЛЬНАЙ ПАМЯЦІ ДЗЯРЖАВЫ"

Менск, 6 кастрычніка. Камітэт па архівах і справаводстве пры Савеце міністраў выдаў даведнік "Архіўныя дакументы Рэспублікі Беларусь — скарбніца сацыяльнай памяці дзяржавы". У ім прадстаўлена інфармацыя аб сістэме архіўных органаў і устаноў, якія фармуюць нацыянальны архіўны фонд, а таксама арганізуюць яго захоўванне, выкарыстанне і кантроль за вядзеннем справаводства.

У прадмове да даведніка паведамляецца, што па стане на 1 студзеня 2005 года ў дзяржаўных архівах краіны налічваецца 11.687.285 дакументаў, з іх 346.190 — у гарадскіх і раённых архівах. Самыя раннія дакументы — аўтэнтычныя пергаментныя граматы на старабеларускай, старапольскай і лацінскай мовах — адносяцца да XIV—XV стагоддзяў.

У даведніку выкладзены кароткія звесткі аб органах дзяржкіравання па архівах і справаводстве, навуковых арганізацыях галіны, лабараторыях па рэстаўрацыі і мікрафільмаванні дакументаў, аб рэдакцыі ведамаснага часопіса "Архивы и делопроизводство". Апублікаваны таксама даведніцкія артыкулы аб усіх дзяржаўных архівах Беларусі.

На сённяшні дзень у краіне дзейнічаюць 6 рэспубліканскіх архіваў (Нацыянальны архіў, нацыянальныя гістарычныя архівы ў Менску і Гародні, Беларускі дзяржаўны архіў кінафотадакументаў у Дзяржынску, Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва і Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі), а таксама 6 абласных, 16 занальных, 127 раённых і гарадскіх архіваў.

Кожны артыкул уключае паштовы адрас архіўнай установы, нумары тэлефонаў, адрасы электроннай пошты і інтэрнэт-сайта, графік працы. Утрымліваюцца звесткі аб гісторыі архіва, даецца разгорнутая анатацыя пра тэматыку і склад яго дакументаў. Раённыя і гарадскія архівы прадстаўлены агульным спісам, у якім іх назвы з адрасамі і тэлефонамі сістэматызаваны па абласцях і алфавіце.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## *Сакратарыят ТБМ*

***нагадвае сябрам Таварыства, што чарговы IX з'езд ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" адбудзецца 30 кастрычніка 2005 года. На гэты момант толькі 50% сяброў Рады ТБМ даслалі анкеты дэлегатаў з'езду.***

***Толькі 15 арганізацый даслалі пратаколы вылучэння дэлегатаў на з'езд і анкеты дэлегатаў.***

***Сакратарыят просіць паскорыць перадачу пратаколаў і анкетаў.***

***Сакратарыят просіць старшыняў арганізацый і суполак сабраць і здаць сяброўскія складкі за 2005 год да з'езду.***

**Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай (раённай) арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" адбудзецца ў малой зале Лідскага гарадскога дома культуры 16 кастрычніка ў нядзелю. Пачатак у 11.00. Падчас канферэнцыі адбудзецца прэзентацыя кнігі Алега Мінкіна *"Побач з намі на зямлі"*.**

## У памяць герояў Грунвальда

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)*





На адкрыцці першага ў Беларусі помніка героям Грунвальда выступілі кіраўнік клуба "Спадчына" Анатоль Белы, знакамітыя беларускія гісторыкі Анатоль Грыцкевіч і Георгі Штыхаў і іншыя сябры клуба. Яны, перш - на перш, нагадалі сабраўшымся тыя акалічнасці, якія садзейнічалі поспеху славянскіх войскаў у гэтай бітве, адзначылі стратэгічны і тактычны талент, рыцарскую мужнасць Вітаўта і Ягайлы. Усе выступоўцы на цырымоніі адкрыцця падкрэслівалі значэнне для далейшай беларускай гісторыі гэтай вялікай ваеннай падзеі Сярэднявечча, бо перамога на далёкіх палях Грунвальда была лёсавызначальнай для нашага краю, спрыяла таму, што 500 гадоў нага ўзброенага немца не ступала на тэрыторыю Беларусі. І гэта заслуга і тых 30 тысяч ваяроў з нашага краю, якія сваёй крывёй і жыццямі выратавалі ад знішчэнння беларусаў як нацыі.

Жыхары горада Старыя Дарогі, госці з Менска горача віталі спадзяванні, якія выказвалі выступоўцы на адкрыцці гэтага помніка, што калі-небудзь і наша дзяржава патурбуецца, каб на самым высокім узроўні ўшанаваць памяць герояў Грунвальда – змагароў з крыжацкай навалай, а гісторыкі даведаюцца імёны тых, хто каваў гэтую перамогу. Бо сёння да нас дайшлі імёны толькі шаснаццаці беларусаў-ўдзельнікаў Грунвальдскай бітвы... Гэта будзе даніна памяці нашым мужным продкам, што баранілі тады наш край...



Цырымонію адкрыцця помніка Героям Грунвальда вельмі прыгожа і цёпла аздабляла музыка ў выкананні ўдзельнікаў фолк-гурта "Ліцьвіны". Дарэчы, гэты калектыў і яго нязменны кіраўнік Уладзімір Бербераў былі ганараваны Камітэтам ушанавання культурна-асветнага клуба "Спадчына" медалём Міхася Забэйды-Суміцкага з надпісам "Салаўю Беларускага Адраджэньня".

Сваю бонду ў стварэнне святочнага настрою ў удзельнікаў цырымоніі ўнеслі і ваяры з клуба "Рыцары Вялікага Княства", якім кіруе Арына Вячорка. Маладыя рыцары з гэтага клуба прадэманстравалі ўсім прысутным, як у часы Грунвальда адбываўся бой, якімі прыёмамі валодання зброяй карысталіся тагачасныя ваяры. За гэты неацэнны ўнёсак у правядзенне адкрыцця помніка героям Грунвальда клуб "Рыцары Вялікага Княства" быў узнагароджаны мадалём Льва Сапегі, а іх кіраўнік і ідэйны натхняльнік — Арына Вячорка была ганараваная медалем Цёткі (Алаізы Пашкевіч).

Таксама медалі "Спадчыны" былі ўручаны самым актыўным сябрам, якія сваёй працай шмат зрабілі для захавання гістарычнай памяці народа, для захавання і развіцця роднай мовы. Медалямі з выявай "Пагоні" адзначаны "спадчынаўцы" Уладзімір Ліпскі, Анатоль Аніськ. Іменнымі пярсцёнкамі з "Пагоняй" былі ганараваны Галіна Сіўчык, Надзея Сармант, Анатоль Крывенка.

*Анатоль Мяльгуй.*

***На здымках:** На 1-й ст. - элементы помніка. На 5-й ст.: 1. Слова мае старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы; 2. Выступаюць "Ліцьвіны"; 3. Рыцары Вялікага Княства ў баі.*

# Таленавіты беларускі вучоны Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк
## (27.09.1947-13.10.2004 г.)

Вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк нарадзіўся 27 верасня 1947 года ў вёсцы Грушаны Поразаўскага раёна, цяпер Свіслацкі раён Гарадзенскай вобласці. У 1969 годзе ён скончыў гістарычны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Непрыцяглы час працаваў загадчыкам аддзела лістоў рэдакцыі свіслацкай раённай газеты "Заветы Ильича", служыў у Савецкай Арміі.

Са снежня 1970 года У. М. Міхнюк аспірант кафедры гісторыі СССР і БССР Гарадзенскага педагагічнага інстытута. З 1973 года выкладчык, старшы выкладчык на той жа кафедры. З 1975 года ён старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, у 1982-1987 гадах і з 1991 года старшы, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР. У 1987-1991 гадах У. М. Міхнюк – старшы выкладчык, прафесар мінскай вышэйшай партыйнай школы (у 1990 годзе пераўтворана ў Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання КПБ).

У студзені 1992 – снежні 1996 гадоў У. М. Міхнюк працуе дырэктарам Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы. У 1997-1998 гадах ён загадчык аддзела Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. З чэрвеня 1998 года Уладзімір Мікалаевіч прафесар кафедры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. З верасня 2004 года прарэктар па навуцы беларускага інстытута правазнаўства.

У. М. Міхнюк грунтоўна даследаваў праблемы гісторыі, гістарыяграфіі і крыніцазнаўства, археаграфіі і архівазнаўства, бібліяграфіі і гісторыі літаратуры Беларусі 20-30-х гадоў XX стагоддзя. Ён першы пачаў комплексна і дэталёва распрацоўваць пытанні гісторыі гістарычнай навукі і палітычных рэпрэсій, масонства на Беларусі.

У. М. Міхнюк аўтар шматлікіх навуковых кніг, у тым ліку "Крестьянство Белоруссии на пути к социализму: Историографический очерк" (1979), "Социалистические преобразования в западных областях БССР: Историографический очерк" (1979), "Становление і развитие исторической науки Советской Белоруссии. (1919-1941гг.)" (1985), "Арыштавацъ у высылцы: Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара" (1996), "Слуцкі збройны чын 1920 г. У дакументах і ўспамінах" (2001) і іншых.

Уладзімір Мікалаевіч адзін з аўтараў кніг: "Нарысы гісторыі Беларусі" (ч.2, 1996), "Историческая наука Белорусской ССР: 80-е годы" (1997, у сааўтарстве з П. Ц. Петрыкавым), "Гісторыя славянскіх народаў у працах савецкіх даследчыкаў" (1988, у сааўтарстве з П.Ц. Петрыкавым і Г. Г. Сяргеевай), "Докторские и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР. 1944-1987 гг. Библиографический указатель". Издание 2-е, переработанное и дополненное (1988, у сааўтарстве з Л.М. Навіцкай), "Споведзь у надзеі застацца жывым: Аўтабіяграфія Браніслава Тарашкевіча" (1999, у сааўтарстве з А. І. Валахановічам), "Знешняя палітыка Беларусі" (1997-2002). Па яго ініцыятыве, пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле выйшла 5 тамоў.

Уладзімір Мікалаевіч – першы з беларускіх гісторыкаў які шмат зрабіў для вяртання з небыцця неабаснавана рэпрэсаваных беларускіх дзяржаўных, палітычных, грамадскіх і культурных дзеячоў XX стагоддзя. Ён аўтар шэрагу навуковых артыкулаў пра К. Езавітава. У. Ігнатоўскага. В. Ластоўскага, А. Луцкевіча, У. Пракулевіча, А. Смоліча, А. Сокала-Кутылоўскага. А. Цвікевіча, М. Гарэцкага, А. Гурло, У. Дубоўку. Я. Пушчу. А. Дудара. Б. Тарашкевіча, Янку Купалу, У. Жылку і многіх іншых. Ён апублікаваў шэраг дакументальных матэрыялаў з Цэнтральнага архіву КДБ Рэспублікі Беларусь, НАРБ і іншых, якія асвятляюць рэпрэсіі супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Сярод іх кніга "Антон Луцкевич: Материалы следственного дела НКВД БССР" (1997).

У. М. Міхнюк - аўтар 14 кніг і брашур, шматлікіх зборнікаў дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі, у тым ліку 4 манаграфій. У энцыклапедычных выданнях, навуковых зборніках, часопісах, газетах Уладзімір Мікалаевіч надрукаваў звыш 450 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў. У 1974 годзе ён абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1986 годзе доктарскую дысертацыю на тэму "Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919-1941 гг.)". У 1987 годзе яму прысвоена навуковая ступень доктара гістарычных навук, у 1991 годзе - званне прафесара.

Чытаючы спецкурс "Методыка гістарычнага даследавання" на гістарычным факультэце БДУ, У. М. Міхнюк працягваў даследаванне гісторыі палітычных рэпрэсій у Беларусі супраць нацыянальнай інтэлігенцыі ў міжваенны перыяд. Неардынарныя погляды і новы падыход да рашэння праблем развіцця гісторыі Беларусі многімі вучонымі рэспублікі старэйшага пакалення былі ўспрыняты неадэкватна. Малады, энергічны, доктар навук у 40 гадоў, па мерках таго часу, быў для "дзядоў" – беларускіх гісторыкаў – выскачкам. Для яго былі характэрнымі апантанасць і любоў да працы, яго навуковыя працы – гэта новыя адкрыцці ў гістарычнай навуцы, адкрыцці невядомых старонак гісторыі Беларусі, даследаванне "белых" плямаў гісторыі нашай рэспублікі, курсы лекцый, якія ён чытаў у БДУ, адрозніваліся высокай навуковасцю, дакладнасцю і выверанасцю факталогіі, абгрунтаванымі высновамі.



*Уладзімір Міхнюк*

Працуючы ў Цэнтральным архіве КДБ Рэспублікі Беларусь, У. М. Міхнюк знайшоў арыгіналы вершаў А. Дудара. У. Дубоўкі, У. Жылкі і іншых беларускіх паэтаў, якія не былі вядомы нават беларускім літаратуразнаўцам. Да прыкладу, у час падрыхтоўкі кнігі пра Алеся Дудара ён выявіў у архіве арыгінал верша класіка ўкраінскай літаратуры Уладзіміра Сасюра (1898-1965) "Наўкола радасці так мала", пра існаванне якога не ведалі нават землякі паэта-украінскія літаратуразнаўцы. Ва ўрачыстай абстаноўцы ў пасольстве Украіны ў Рэспубліцы Беларусь каштоўная знаходка У. М. Міхнюка была вернута на радзіму.

Уладзімір Мікалаевіч прымаў актыўны ўдзел у абмеркаванні праекту "Положения о присуждении ученых степеней и присвоении ученых званий в Республике Беларусь". У друку ён выказаў свой пункт погляду па шэрагу артыкулаў праекта, якія перашкаджалі росту маладога навуковага патэнцыялу. У. М. Міхнюк у першую чаргу думаў і клапаціўся пра навуку Беларусі, пра яе маладыя кадры, пра яе будучае. Слынны вучоны заўсёды быў у творчым пашуку. Ён распрацоўваў актуальныя навуковыя тэмы, выкладае ў БДУ спецкурс "Методыка гістарычнага даследавання", чытае курс лекцый па тэме "Як дзялілі Беларусь", што выклікала цікавасць і захапленне ў слухачоў навізною фактаў, новымі поглядамі на шмат якія праблемы гісторыі Беларусі. Пры падрыхтоўцы навуковых прац, лекцый, дакладаў на навуковых канферэнцыях Уладзімір Мікалаевіч працаваў з дакументамі і матэрыяламі на польскай, чэшскай, славацкай, балгарскай, украінскай і іншых умовах. Для азнаямлення з літоўскімі архівамі вывучаў літоўскую мову.

Прафесар У. М. Міхнюк быў цудоўным аратарам. Валодаў унікальнымі энцыклапедычнымі ведамі, якія падмацоўваліся цікавымі гістарычнымі фактамі, афарызмамі, проста зачароўваў студэнтаў-слухачоў на лекцыях. Ён умеў быць дырыжорам настрою і ўспрымання яго лекцый для тых, хто яго слухаў. Студэнты называлі яго паміж сабой "казачнікам" за цікавыя і незвычайныя лекцыі. Усе лекцыі і даклады Уладзімір Мікалаевіч тэзісна занатоўваў на бібліятэчных картках, але тэкст выступлення заўсёды быў у ім самім, гэта была яго тэарэтычная навуковая імправізацыя. У гэтым і заключаўся "феномен Міхнюка".

У. М. Міхнюк быў членам экспертнага Савета Вышэйшай атэстацыйнай камісіі Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці "гісторыя", членам навуковых саветаў па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый БДУ, БДПУ імя Максіма Танка, Інстытута гісторыі НАН Беларусі, БелНДІДАС. Прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы навуковых кадраў, з'яўляўся афіцыйным апанентам і экспертам па доктарскім і кандыдацкім дысертацыям, старшынём дзяржаўных экзаменацыйных камісій па гісторыі ў вядучых ВНУ Рэспублікі Беларусь. Ён быў старшынём на рэспубліканскіх алімпіядах школьнікаў па намінацыі "гісторыя" у 2001 годзе (г. Ліда), у 2003 годзе (г. Барысаў), у 2004 годзе (г. Слонім).

У.М. Міхнюк быў членам рэдакцыйных камісій часопісаў "Беларускі гістарычны часопіс", "Гісторыя: Праблемы выкладання", "Архівы і справаводства", навукова-рэдакцыйных саветаў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (у 6-ці тамах). "Беларускай энцыклапедыі" (у 18-ці тамах). Ён наладжваў навуковыя сувязі з гісторыкамі іншых краін, арганізоўваў, праводзіў і прымаў актыўны ўдзел у міжнародных навукова-практычных канферэнцыях па праблемах гісторыі Беларусі.

Уладзімір Мікалаевіч унёс вялікі ўклад у развіццё гістарычнай навукі Беларусі, увёў у навуковы абарот шмат новых архіўных крыніц, падрыхтаваў шэраг навуковых кадраў аспірантаў і вучоных. У яго было шмат вучняў і аспірантаў. Ён падрыхтаваў 3 дактароў навук і 3 кандыдатаў навук, 8 аспірантаў працавалі пад яго кіраўніцтвам. Ён уважліва адносіўся да сваіх вучняў, як клапатлівы бацька, падказваў, раіў, чытаў, рэдагаваў, выпраўляў іх навуковыя працы, дапамагаў даводзіць іх да "навуковай кандыцыі" паўтараючы пры гэтым, што "мяжы для ўдасканалення няма". Вось, напрыклад, якія былі ў яго патрабаванні да навуковай працы (манаграфіі): актуальнасць тэматыкі, навізна даследчага матэрыялу. Высокі ідэйны і навуковы ўзровень, ступень папулярнасці, даступнасці і яснасці выкладання матэрыялу, новы светапогляд і практычнае значэнне навуковага твора, адпаведнасць чытацкаму прызначэнню.

У. М. Мінюк быў настойлівым, прынцыповым вучоным, меў "ваярскі характар" мог мужна і настойліва адстойваць свае навуковыя погляды.

Людзі ішлі да яго па параду, ведаючы, што Уладзімір Мікалаевіч ніколі і нікому не адмовіць, паклапоціцца дапамагчы, падказаць, падтрымаць. Здавалася часам, што ён хоча дапамагчы ўсяму свету. Звярталіся да яго па дапамогу і параду аспіранты іншых навуковых кіраўнікоў. Ён дапамагаў ім, карэктаваў іх тэмы, планы, тэксты. Ён заўсёды быў шчырым, уважлівым, далікатным у сваёй дапамозе.

Як навуковец, Уладзімір Мікалаевіч заўсёды на першае месца ставіў інтарэсы беларускай навукі. Ён заўсёды меў свой пункт погляду па тым ці іншым пытанні ці праблеме. Гэта быў Гісторык з вялікай літары, сапраўдны патрыёт сваёй Радзімы. Прырода дала яму розум і талент. Па жыцці ён прайшоў, пакінуўшы свой яркі след. Ён быў адкрытым, прыстойным, шчырым, уражлівым чалавекам. Ад незвычайных, чуллівых сцэн з жыцця, у яго маглі з'явіцца слёзы спачування і радасці на вачах. А сваімі радаснымі адчуваннямі і пачуццямі ён быў гатовы падзяліцца з усімі. Уладзімір Мікалаевіч умеў прыслухоўвацца да пункту погляду іншых, маючы пры гэтым чоткую асаблістую пазіцыю і ніколі не саромеўся прызнацца, калі аказваўся не правым. У час абмеркавання той ці іншай падзеі, ад яго сыходзіла такая моцная энергетыка, якая зараджала і ўцягвала ўсіх у дыскусію па гісторыі. Здавалася, што гісторыяй прасякнута паветра вакол яго. Гісторыя была ўнутры яго і ён прыспешваў сябе зрабіць шмат розных спраў, спяшыў і стараўся ўсё паспець і ўсё зрабіць. «Ни капли лести, ни грамма подлости, честь и достоинство" – вось такія галоўныя былі жыццёвыя прынцыпы У. М. Міхнюка.

Я быў сведкам, як Уладзімір Мікалаевіч мужна змагаўся з "далакопамі" ад партыйна-савецкай навукі, якія не пускалі ў тыраж яго манаграфію-доктарскую дысертацыю "Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919-1941 гг.)" у 1985 годзе. Сыр-бор разгараўся на стадыі другой, падпісной, каректуры, ужо аж у Галоўліце – савецкай цэнзуры. З-за 24 старонак набранага тэксту ледзьве не пусцілі кнігу "под нож". У.М. Міхнюк катэгарычна адмовіўся замяняць ці выпраўляць гэтыя старонкі тэксту. Выдавецтва "Навука і тэхніка", дзе выходзіла кніга, заступілася за аўтара. Усё ў рэшце-рэшт скончылася добра – кніга выйшла, пасля падпісання "ў свет" у Галоўліце за ...15 дзён. Мы баяліся, каб кнігу наўздагон





не знялі з продажу і не арыштавалі.

Уладзімір Мікалаевіч мужна абараняўся ў час больш чым 8-гадзіннай абароны сваёй доктарскай дысертацыі ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Гэта была абарона доктарскай дысертацыі ў поўным сэнсе гэтага слова. Супраць доктарскай дысертацыі выступіла, як неафіцыйны апанент, так званая "група хуткага адпору" – А. І. Залескі, Р.Р. Кручок, К.І. Дамарад, А.А. Філімонаў. Апаненты, як яны казалі, выступалі "для пратакола". Толькі адзін А.І. Залескі чытаў тэкст па пісанаму 2 гадзіны 15 хвілін. Гэта было ў 1986 годзе. У. М. Міхнюк бліскуча парыраваў і змястоўна адказваў на ўсе пытанні неафіцыйных апанентаў.

Уладзімір Мікалаевіч мужна вёў сябе, калі яго вызвалілі ад пасады дырэктара БелНДІДАС.

Уладзімір Мікалаевіч перанёс стрэс у час выбараў яго ў члены-карэспандэнты НАН Беларусі.

Адчувалася ў апошні час нервовае напружанне і агульная стомленасць Уладзіміра Мікалаевіча ад "шматгадовай гульні" з ім у дырэктара Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Ці не многа такіх сур'ёзных стрэсаў і больш дробных на аднаго чалавека?

Уладзімір Мікалаевіч быў добрым сем'янінам, мужам, бацькам. Ён дапамагаў жонцы-прыгажуні Аляўціне Мікалаеўне, цудоўным дочкам – Кікі і Каці (Кацюні). Яны таксама дапамагалі яму як маглі. Аляўціна Мікалаеўна, маючы вышэйшую адукацыю (скончыла гістарычна-педагагічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы), дапамагала яму ў складанні бібліяграфічнага даведніка "Докторския и кандидатские диссертации по историческим наукам БССР. 1944- 1987 гг. Библиографический указатель".

У. М. Міхнюк выдатна гуляў у шахматы, більярд, збіраў грыбы і ягады, нарыхтоўваў лекавыя травы, у якіх ведаў толк. Рабіў прыемны лекавы чай (гарбату), рыхтаваў дамашняе смачнае віно. Як таленавіты кухар, радаваў сям'ю адмыслова прыгатаванымі смачнымі катлетамі з лісічак і цудоўнымі дранікамі са свежаю смятанаю. З задавальненнем у рэдкія часы адпачынку працаваў на сваёй дачы. Так атрымалася, што лёс адвёў яму нядоўгі век.

Уладзімір Мікалаевіч Міхнюк – незвычайны і неардынарны Чалавек, Вучоны, Даследчык, Педагог. Такім ён быў. Такім і застаецца ў памяці тых, хто яго ведаў – родных, блізкіх, калег, сяброў, паслядоўнікаў, аднадумцаў.

*Анатоль Валахановіч, гісторык-журналіст.*

# ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ

## *Да выхаду ў свет выбраных твораў Францішака Аляхновіча.*

Талент Францішака Аляхновіча выспяваў у складаны, супярэчлівы час – Першая сусветная вайна, рэвалюцы, нямецкая і польская акупацыі Беларусі, пачатак 20-х гадоў больш-менш спрыяльных для беларусізацыі і развіцця творчасці гэтага выдатнага драматурга, празаіка, паэта, публіцыста, рэжысёра і акцёра, аднаго з арганізатараў і даследчыкаў беларускага тэатра, перакладчыка, рэдактара беларускіх і польскіх газет, актыўнага ўдзельніка нацыянальнага адраджэння першай паловы XX ст., якога сучаснікі лічылі "бацькам беларускай драматургіі". Яго лёс цесна звязаны з Вільняй, дзе ён і нарадзіўся (1883 г.) у шляхетнай артыстычнай сям'і, а пазней і з Менскам. Пасля гімназіі і вучобы ў Варшаўскай драматычнай школе (1903) вандраваў з трупай польскіх акцёраў, а затым, вярнуўшыся ў Вільню пачаў журналісцкую дзейнасць, выдаваў часопіс "Пяркунас", пісаў артыкулы, скіраваныя супраць самадзяржаўя, далучыўся да беларускага нацыянальнага руху, як рэжысёр ставіў спектаклі, стаў разам з І. Буйніцкім заснавальнікам беларускага тэатра. За гэтую сваю дзейнасць праследваўся царсімі ўладамі, быў вымушаны з'ехаць у Галіцыю, дзе, як акцёр, выступаў у польскіх тэатрах пад псеўданімам Ю. Монвід, якім пазней падпісваў і свае творы. У Вільню вярнуўся ў 1913 г. са спадзяваннямі на амністыю (з нагоды 300-годдзя царскай дынастыі), але быў усё ж арыштаваны і 9 месяцаў праседзеў у Лукішках. Менавіта тут, у турэмнай камеры, Ф. Аляхновіч напісаў сваю першую п'есу "На Антокалі", прысвяціўшы яе роднаму гораду і жыццю віленчукоў. Яна была надрукавана ў газеце "Гоман" (1916), дзе Ф. Аляхновіч працаваў разам з В. Ластоўскім, а праз год пастаўлена тэатральнай студыяй "Беларускага клуба", заснаванага І. Луцкевічам. Адчуваючы вострую патрэбу ў п'есах на сучасную беларускую тэматыку, з гэтага часу пісьменнік цалкам засяроджваецца на стварэнні п'ес, і на працягу 1915-22 гг. іх было напісана каля дваццаці, тэматычна змястоўных і жанрава разнастайных. Гэта былі шматактовыя драмы ("Страхі жыцця", "Цені", "Нясконачаная драма", "Птушка шчасця", "Манька") камедыі ("Шчаслівы муж", "Пан міністр"), сцэнічныя, ідылічныя, гратэскавыя абразкі, драматычныя эскізы, аднаактовыя п'есы-жарты, п'есы – казкі ("Каліс", "На вёсцы", "Дрыгва" "У лясным гушчары", "Чорт і баба", "Базылішк", "Перад святам", "Дзядзька Якуб", "На Крэсах"), п'есы-інсцэніроўкі паводле твораў іншых пісьменнікаў "Заручыны Паўлінкі" (Я. Купала "Паўлінка"), "Лес шуміць" (У. Караленка "Палеская легенда"), "Бутрым Няміра" (В. Ластоўскі "Каменная труна"), "Кветка-папараць" (па паэмах Я. Купалы і К. Буйло). П'есы друкаваліся ў віленскіх і менскіх газетах і часопісах, амаль усе яны не страцілі сваёй мастацкай каштоўнасці і сёння. Тады ж пачалі выходзіць зборнікі п'ес Ф. Аляхновіча (з 1919), адначасова ён спрабаваў сябе ў паэзіі, прозе, шмат пісаў рэцэнзій, артыкулаў, з-пад яго пяра выходзілі цікавыя гумарэскі, абразкі, аповесць спавядальнага зместу "Пісьмы да ЯЕ".



Ф. Аляхновіч.

Яго творчасць высока ацэньвалі М. Гарэцкі. Я. Карскі, І. Дварчанін, адзначалі добрую мастацка-эстэтычную вартасць п'ес, псіхалагізм характараў, уменне драматурга ствараць сапраўдныя жывыя тыпы і асабліва падкрэслівалі "выключна важную ролю ў стварэнні беларускага нацыянальнага рэпертуару", а няўрымслівая натура мастака шукала больш прыдатных магчымасцяў для самарэалізацыі і сцвярджэння сваіх ідэй і таленту. Даведаўшыся, што ў Менску дзейнічае Першае беларускае таварыства драмы і камедыі, існуе тэатр У. Галубка, дзе ставіліся і яго п'есы, што была абвешчана БНР, і пачала здзяйсняцца сапраўдная беларусізацыя, Ф. Аляхновіч пешу выпраўляецца ў Менск, куды прыходзіць праз восем дзён у бядотным стане і хутка ўключаецца ў тэатральнае жыццё Менска як драматург, рэжысёр, акцёр. Тут упершыню былі пастаўлены яго п'есы "Бутрым Няміра", "Страхі жыцця" (пра яе менская газета "Беларускі шлях" пісала, што "Страхамі жыцця" аўтар стварыў "новую эпоху ў беларускай драме"). У Менску Ф. Аляхновіч пачынае займацца тэорыяй тэатра. Выдае брашуру "Тэатр на вёсцы", дзе выказвае надзвычай цікавыя парады, думкі, актуальныя і для сённяшняга беларускага адраджэння: "І ў нас – я веру – тэатр адыграе не меншую ролю. Роднае слова, родная песня, народныя скокі – будуць той іскрай, якая запаліць у душах любоў да ўсяго свайго, роднага, беларускага. Чаго не патрапіць зрабіць кніжка, газета, прамова, таго даб'ецца тэатр, у лёгкай мастацкай форме несучы ў народ ідэю адраджэння і запаляючы сэрцы да работы на ніве нацыянальнага ўсведамлення.

Аддавайце беларускай справе кожны, што можаце. Не складвайце рук, нягледзячы ні на якія перашкоды або няўдачы, а ваша вытрывалаcць і ахвярнасць зробіць тое, што наша культурнае жыццё ярка зазіхаціць усімі краскамі народнага духу і паслужыць на славу нашага Адраджэння".

Ён і сам ахвярна служыў нацыянальнаму адраджэнню. Не губляючы сувязі з Менскам, Ф. Аляхновіч з 1921 па 1926 г. жыў у Вільні, знаходзіўся ў самым цэнтры адраджэнцкага руху. Працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, стаў адным з ініцыятараў Таварыства беларускай школы. Як рэжысёр ставіў спектаклі ў Маладзечне, Лідзе, Вілейцы, Ашмянах, Радашковічах, перакладаў для польскіх газет творы беларускіх пісьменнікаў, быў рэжысёрам Таварыства драматычнай майстроўні, выступаў з лекцыямі аб нацыянальным мастацтве, якія потым сталі асновай для яго грунтоўнага даследавання "Беларускі тэатр" (Вільня, 1924).

Калі Заходняя Беларусь адышла да Польшчы, Ф. Аляхновіч пачынае рабіць захады, каб канчаткова пераехаць у Менск: "... Я гэтулькі чуў аб "вялікім савецкім будаўніцтве", аб росквіце ў старонцы пралетарскае дыктатуры навукі, мастацтва, тэхнікі, аб самавызначэнні народаў, якія "дабравольна" злучыліся ў саюз савецкіх рэспублік, і ў канцы – што да мяне як для беларуса, было найбольш заманчыва – я чуў аб беларусізацыі Беларускай Савецкай Рэспублікі: аб дзяржаўных тэатрах, аб шырокай выдавецкай рабоце..." Галоўны герой яго аўтабіяграфічнай п'есы "Нясконачаная драма" выказаў памкненні аўтара ўзнёслымі словамі: "Менск! Менск! Ерусалім ты мой! Ці ты каменнямі б'еш сваіх прарокаў, ці спатыкаеш іх расцвіўшымі галінамі?... Узыходзе сонца мае Бацькаўшчыны, і я ляту туды, дзе неба пачынае чырванець на небасхіле. На ўсход – у Менск.

Там узыходзе зара майго новага жыцця!..."

Восенню 1926 г. Ф. Аляхновіч прыязджае ў Менск, дзе быў цёпла сустрэты тэатральным асяроддзем, усё тут яму здавалася новым, прывабным. Была даволі хутка задаволена ягоная просьба аб грамадзянстве БССР. Ён атрымаў накіраванне ў Віцебскі тэатр, куды і выехаў у снежні 1926 г., а 1 студзеня 1927 г. ён, як савецкі грамадзянін, быў арыштаваны і дастаўлены ў Менск.

Не здзейсніліся яго мары аб новым жыцці. Каменнямі сустрэў таленавітага беларуса афіцыйна-савецкі Менск. "...Думкі хмарай праляталі праз маю галаву. Я не мог яшчэ ўцяміць свайго палажэння. За што, дзеля чаго арыштавалі мяне? Тады я яшчэ не мог падумаць, што мяне сцягнулі ў СССР з правакацыйнай мэтай. Заміж шырокае культурнае працы ў Савецкай Беларусі – цесная камера ў падвале з выбітымі вокнамі..., -пісаў пазней ён у кнізе "У кіпцюрах ГПУ".

Дапытваў Ф. Аляхновіча сам Апанскі, прышывалі яму прыналежнасць да контррэвалюцыйнай арганізацыі, якая дзейнічала ў кірунку дапамогі міжнароднай буржуазіі з мэтай змагання з вызваленчым рухам працоўных Заходняй Беларусі", а гэта па савецкіх законах быў славуты 58 артыкул – "вораг народа". І асудзілі гэтага выдатнага дзеяча нацыянальна-культурнага адраджэння, таленавітага драматурга на 10 гадоў канцлагеру і саслалі ў самы жудасны на той час востраў ГУЛагу – Салаўкі. Не дапамаглі ні просьбы маці (яна жыла ў Менску), ні хадайніцтва вядомых у Беларусі людзей: Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага. З. Бядулі, В. Друшчыца, М. Грамыкі, А. Гурло, А. Смоліча, Я. Лёсіка, У. Жылкі. Б. Эпімах-Шыпілы, М. Байкова. А. Піятуховіча і інш. Яны падпісалі ліст на імя Старшыні Савета народных камісараў М. Галадзеда з просьбай: "выпусціць Ф. Аляхновіча на волю дзеля літаратурнае і тэатральнае працы ў БССР". У хуткім часе амаль усе яны, і Галадзед, таксама сталі "ворагамі народа", былі расстраляны або высланы ў ГУЛаг.

На Салаўках Ф. Аляхновіч мог бы і загінуць, але праз 7 гадоў яго абмянялі на Б. Тарашкевіча, выдатнага беларускага дзеяча, які сядзеў за свае беларусія справы ў польскай турме. (Абмянялі, каб расстраляць Б. Тарашкевіча ў 1937 г.). Ф. Аляхновічу ўдалося пражыць у Вільні да 1944 г. і, нягледзячы на папярэджанне пры абмене "о неразглашении", напісаць сваю славутую кнігу "У кіпцюрах ГПУ", якая спачатку друкавалася ў Вільні, а потым



**Ф. Аляхновіч. Вільня, 1937 г.**

была выдадзена ў Еўропе і ЗША. Так свет даведаўся, што адбывалася за савецка-прапагандысцкім фасадам СССР, а гэтага пісьменніку не даравалі. Ён быў застрэлены (хутчэй за ўсё агентамі таго самага ГПУ) у сваёй віленскай кватэры, а імя і творчасць, кніга пра салавецкі канцлагер былі забаронены на ўсе гады савецкай улады. Да свайго трагічнага канца Ф. Аляхновіч паспеў напісаць п'есу-прадчуванне "Круці не круці – трэба памярці" і ў лісце да К. Езавітава, які прасіў яго даслаць уласную біяграфію, гаварыў пра свой лёс, што здзекваўся над ім і прыгатаваў яму трагічны фінал. Так яно і сталася.

Але час, гісторыя ўсё расстаўляюць па сваіх месцах. Вярнулася добрае імя таленавітага беларуса. А творы яго ўведзены ў сучасны літаратурны працэс. Кніга "У кіпцюрах ГПУ" была перавыдадзена ў Мен-



**Ф. Аляхновіч. Студзень 1944 г.**

ску, як толькі Беларусь атрымала незалежнасць, а ў 2005 г. у серыі "Беларускі кнігазбор", дзе выдаецца ўсё лепшае, што створана ў беларускай літаратуры, выдадзены том выбраных твораў Францішака Аляхновіча (падрыхтоўка тэкстаў, укладанне, каментар, прадмова доктара мастацтвазнаўства прафесара А. В. Сабалеўскага) як помнік выдатнаму сыну Беларусі.

*Лідзія Савік.*

# Міхал Клеафас Агінскі

*240 гадоў з дня народзінаў*

## Дзяцінства Міхала

Міхал Клеафас Агінскі нарадзіўся 25 верасня 1765 года ў маёнтку Гузава, непадалёк ад Варшавы. Род Агінскіх належаў да ліку самых знатных родаў Рэчы Паспалітай, Агінскія былі сваякамі такіх вядомых беларуска-літоўскіх магнатаў, як Радзівілы і Чартарыйскія. Бацька будучага кампазітара Андрэй Агінскі, мечнік літоўскі і староста Ашмянскі, быў па жыцці цесна звязаны з Беларуссю. Ён карыстаўся асаблівай прыхільнасцю самога караля, таму і быў прызначаны паўнамоцным паслом у Вену. Туды ён паехаў разам з жонкай, дачкой Юзэфай і сынам Міхалам Клеафасам. Аднак неўзабаве маці з дзецьмі вярнулася ў маёнтак Гузаў, куды разам з імі прыехаў з Вены і гувернёр — француз Жан Ралей.

У аўтабіяграфіі вялікага кампазітара прыгадваецца, што гэты француз адыграў асаблівую ролю ў кштальтаванні яго светапогляду. Да канца жыцця Міхал Клеафас Агінскі захаваў пачуццё вялікай любові і павагі да свайго настаўніка. І калі стаў дарослым і знакамітым, ён паставіў помнік Жану Ралею на беразе ручая ў сваім беларускім маёнтку Залессе.

Ралей вучыў яго любіць навакольную прыроду, дрэвы, птушак, кветкі і, безумоўна, сялян, якія жылі побач. Але не толькі гэтым быў абавязаны Агінскі свайму настаўніку. Бацькоў Міхала Клеафаса вельмі непакоіла знешнасць хлопчыка, які быў тоўстым і няўклюдным, сарамлівым хлопчыкам занадта малога росту. Ралей распрацаваў цэлую сістэму гімнастычных практыкаванняў, якія паступова ператварылі яго выхаванца ў хударлявага прыгажуна, які нязмушана трымаўся нават пры двары самога караля.



*Міхал Клеафанс Агінскі*

## На службе Айчыне

Першая сустрэча Міхала-Клеафаса з каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім адбылася ў дзяцінстве. Маленькага хлопчыка прадставілі каралю, і той зрабіў яму невялікі экзамен. Кароль быў вельмі задаволены адказамі малога і спытаўся ў яго, кім ён хоча быць, калі стане дарослым. "Я адказаў яму, што хачу служыць сваёй Радзіме і майму каралю, але не хачу стаць каралём, бо, кажуць, што вы вельмі нешчаслівы",— прыгадваў пазней Агінскі. Кароль нічога не сказаў, але Міхал Клеафас убачыў на яго вачах слёзы.

Бацькі хлопчыка надавалі вялікую ўвагу выхаванню ў яго душы высокіх маральных норм, ідэалаў, патрыятычных пачуццяў. У сваёй аўтабіяграфіі кампазітар успамінаў, як аднойчы, раскапрызіўшыся ён выцяў аднаго з лёкаяў свайго бацькі. Калі Ралей дазнаўся пра гэта, ён склікаў усіх лёкаяў і пакаёвак і загадаў хлопчыку ў іх прысутнасці стаць на калені перад тым, каго ён выцяў, пацалаваць руку і папрасіць даравання...

Ужо ў дзяцінстве Міхал Клеафас адчуў непераадольную цягу да музыкі і бацькі наймалі яму знакамітых настаўнікаў, першым з якіх стаў Юзаф Казлоўскі, таксама наш зямляк родам з Прапойска (цяперашні Слаўгарад) і, дарэчы, аўтар знакамітага рускага нацыянальнага гімна "Гром победы раздавайся". Вучыўся граць на скрыпцы Міхал Клеафас у славутага харвацкага скрыпача Ярновіча., потым у Віота, Камапанелі, Ляфона...

Сын ашмянскага старасты атрымаў не толькі цудоўную музычную адукацыю, ён добра маляваў, пісаў вершы, свабодна гаварыў на некалькіх еўрапейскіх мовах, ведаў гісторыю Еўропы і свайго краю, будучыня якога ўсё больш і больш яго трывожыла. У дзевятнаццаць гадоў Міхал Клеафас быў выбраны дэпутатам сойму, а ў 1790 годзе ён едзе ў Галандыю, а потым у Англію з дыпламатычнай місіяй. У гэты час яму ўсяго 25 гадоў.

У канцы 1790 года ў лонданскіх газетах Агінскі прачытае аб сваёй гібелі: нібыта карабель, на якім ён ехаў у Англію, патануў. З гэтага часу жыццё яго акружана легендамі, і пазней неадночы яму прыйдзецца чытаць у друку паведамленні аб сваёй смерці...

## Палітыка і музыка

Падчас свайго падарожжа па Еўропе Агінскі шмат часу прысвячаў музыцыраванню і вывучэнню твораў вялікіх кампазітараў-сучаснікаў, у прыватнасці Гайдна і Моцарта. Вярнуўшыся дадому, Агінскі запрасіў да сябе на службу славутага венскага піяніста, кампазітара і імправізатара Ёзефа Вельфа. Калі Рэч Паспалітая страціла рэшткі сваёй незалежнасці, маёнткі Агінскага, як і іншых патрыётаў, былі канфіскаваныя. Ён едзе ў Пецярбург да двара Кацярыны II, і ў яго атрымліваецца вярнуць свае ўладанні. Больш таго, Агінскі атрымлівае прызначэнне на службу ў Вільню, дзе займае высокі пост вялікага падскарбія (дзяржаўнага казначэя Літвы (ВКЛ). Тут ён пасябраваў з многімі патрыётамі свайго краю. Таму і не дзіўна, што вясной 1794 года Агінскі далучыўся да Тадэвуша Касцюшкі. Вялікі кампазітар сказаў, што прыносіць у дар Радзіме сваю маёмасць, працу і жыццё. І сапраўды, Агінскі перавёў значную частку сваіх сродкаў Нацыянальнай радзе паўстання і сам прыняў удзел у некалькіх бітвах.

У 1794 годзе адбыўся рэзкі паварот у жыцці і творчасці кампазітара.. "Я сачыніў марш для майго аддзелу стралкоў са словамі, якія былі напісаныя спецыяльна для гэтай музыкі, і з таго часу гэты марш выконваўся ў многіх палках. Я пісаў таксама ваенныя і патрыятычныя песні, якія карысталіся вялікім поспехам, бо ўзбуджалі смеласць, энергію і энтузіязм маіх таварышаў па зброі", — пісаў Агінскі ў сваіх "Лістах пра музыку".

Да нашага часу дайшлі толькі некаторыя маршы Агінскага, песень, напісаных у гэты час, знайсці не ўдалося. Існуе меркаванне, што менавіта Агінскі з'яўляецца аўтарам музыкі знакамітага польскага гімна "Jeszcze Polska nie zginela" ("Яшчэ Польшча не загінула", выкананне якога было забаронена многія дзесяцігоддзі. Калі цяжка паранены Касцюшка трапляе ў палон падчас бітвы пад Мацеевіцамі, паўстанне было цалкам задушана. Агінскаму разам з групай іншых патрыётаў удаецца дабрацца да Вены. З першых дзён эміграцыі Агінскі разумеў, якая небяспека навісла над ім, як удзельнікам паўстання, таму ў Вене ён пасяліўся пад чужым прозвішчам.

## Жыццё выгнанніка

Агінскія не маюць магчымасці пакаштаваць ў свеце. І як вядома з лістоў Міхала Клеафаса, ён цэлымі днямі шпацыруе ў невясёлым роздуме па Вене. Неўзабаве Агінскія пераязджаюць у Венецыю. Пасланнік Кацярыны II прапаноўвае Агінскаму пакаяцца, абяцаючы вяртанне ўсіх яго маёнткаў на Літве і ў Беларусі. Кампазітар ад гэтай прапановы адмаўляецца, тым самым выбіраючы для сябе і сваёй сям'і беднасць і лёс выгнанніка. З радзімай яго звязвае толькі ліставанне, дзе адлюстраваныя яго ўражанні ад еўрапейскага жыцця, яго роздум над лёсам Радзімы і выказванні аб стане сучаснай яму музыкі.

У сакавіку 1799 года Агінскі звяртаецца да рускага цара Паўла І, сына памерлай Кацярыны II, з просьбай дазволіць яму вярнуцца на радзіму, але яму адмовілі. І толькі ў 1801 годзе, калі на расійскі пасад узышоў Аляксандр І, Міхалу Клеафасу было дазволена вярнуцца. У Гародні Агінскі прысягнуў на вернасць расійскаму цару, а 5 лютага 1802 года цар Аляксандр І даў яму першую аўдыенцыю. Неўзабаве Агінскі быў выбраны ганаровым членам Віленскага універсітэта, дзе вучылася моладзь з Беларусі, Украіны і Літвы. У гэты час Агінскі жыве ў сваім родавым беларускім маёнтку Залессе, час ад часу выязджаючы ў Вільню і Пецярбург. Там ён сустракае свайго былога настаўніка Казлоўскага, які за свой кошт надрукаваў два зборнікі твораў Агінскага. У першы з іх увайшлі паланезы, а ў другі — рамансы. Самымі вядомымі да таго часу былі паланез фа мажор і «Развітанне». У 1822 годзе Агінскі прымае канчатковае рашэнне выехаць за мяжу. У 1823 годзе ён з сям'ёй пасяліўся ў Фларэнцыі, дзе і пражыў апошнія дзесяць гадоў свайго жыцця. 15 кастрычніка 1833 года знакаміты кампазітар і вялікі патрыёт сваёй Радзімы Міхал Клеафас Агінскі памёр у сталіцы Фларэнцыі Таскане. Праз нейкі час яго труна была перанесена ў знакаміты фларэнтыйскі пантэон Санта-Крочэ, які апісваецца ў кнізе «Рым, Неапаль і Фларэнцыя» знакамітага французскага пісьменніка Стэндаля.



*Герб роду Агінскіх*

*Данута Зайкоўская, вучаніца 9 «Б» класа гімназіі № 192 г Менска.*

## У Беларусі прадугледжваецца стварэнне электроннай версіі архіву князёў Радзівілаў і Літоўскай метрыкі

У Беларускім навукова-даследчым цэнтры электроннай дакументацыі прадугледжваецца стварэнне кампутарнай версіі архіву магнацкага роду Радзівілаў і Літоўскай метрыкі — дзяржаўнага архіву Вялікага Княства Літоўскага. Пра гэта паведаміў дырэктар цэнтра Вячаслаў Насевіч 4 кастрычніка ў Менску на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Дню архівіста, што адзначаецца 6 кастрычніка.

Паводле слоў В. Насевіча, у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі знаходзіцца толькі 32 працэнты ўсіх дакументаў фонду князёў Радзівілаў. "Прыкладна 28 працэнтаў матэрыялаў, што тычацца дадзенай тэмы, захоўваюцца ў архівах Польшчы. Астатняя частка дакументаў гэтага фонду знаходзіцца ў архіўных установах Літвы і Расіі", — сказаў В. Насевіч. Паводле яго слоў, у Беларусі, Польшчы, Літве і Расіі вядзецца збор матэрыялаў па стварэнні сумеснага каталогу фонду Радзівілаў, а таксама запланавана стварэнне кампутарных версій фонду і Літоўскай метрыкі. "У Беларусі гэта стала магчымым толькі цяпер, калі цэнтр закупіў адпаведнае абсталяванне", — сказаў В. Насевіч.

Разам з тым, паводле яго слоў, цэнтр займаецца ўкараненнем электроннага справаводства ў дзейнасць дзяржаўных устаноў, працуе над стварэннем кампутарных даведнікаў дакументацыі, што знаходзіцца ў архівах краіны, а таксама электронных праграм для архівістаў. Апрача таго, цэнтр працуе над універсалізацыяй назваў зніклых і існых населеных пунктаў і па заказу ЮНЕСКА рыхтуе прэзентацыйны кампактдыск аб архітэктурна-культурным комплексе "Рэзідэнцыя Радзівілаў у Нясвіжы", які 15 ліпеня быў уключаны ў Сусветны спіс культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА.

Паводле слоў дырэктара Нацыянальнага архіву Вячаслава Селяменева, ва ўстанове ідзе падрыхтоўка зборнікаў дакументаў аб першым беларускім савецкім урадзе, які ўзначальваў Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), аб 20-годдзі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і аб падзеях першых месяцаў Вялікай Айчыннай вайны.

*М. ГАРАВЫ, БелаПАН.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10. 10. 2005 г. у 11.30. Замова № 1708.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
Кошт у розніцу: па дамоўленасці.